PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ" 36911

# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 9 (1816) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 3 САКАВІКА 1991 г. ЦАНА 800 зл. (50 кап.)

# БГКТ і „НІВЕ" — 35 ГАДОЎ



Ірэна Парфянюк і Яўген Мірановіч (намеснікі старшыні Галоўнай рады БДА) ды Людміла Кісляк (старшыня Тэрытарыяльнай Рады БДА ў Гайнаўцы, распавядае, што чуваць у тамашняй палітыцы).

# БДА ПАСЛЯ ГОДА ДЗЕЙНАСЦІ

Сход членаў і сімпатыкаў Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, які прайшоў у нядзелю 10 лютага (дакладна ў гадавіну Устаноўчага кангрэсу партыі) у Беластоку, прыцягнуў каля 50 чалавек. Лік гэты — своеасаблівы паказальнік палітычнай ангажаванасці ў наш час, не толькі, зрэшты, у беларускім асяроддзі. Партыйнасць сённяшняя, спасцераганая праз прызму звыш саракагадовай „ідэйна-палітычнай еднасці народу" пад штандарам адзінай „кіруючай сілы", явіцца стракатай панарамай палітычных груп і груповак, уплыў якіх на палітычную свядомасць грамадства найчасцей абмяжоўваецца колам саміх актывістаў. Пра масавасць партыйнага руху, рэгламентаванага іерархічнай парамілітарнай структурай і ўнутранай бюракратыяй, трэба пакуль што забыцца. Устаноўчы кангрэс БДА даволі добра ўлавіў гэтую музыку новага часу, запачаткаваўшы пабудову арганізацыі палітычнага характару без такіх неабходных, як здавалася б, арганізацыйных атрыбутаў — без строга акрэсленай „ідэалогіі" і без фармалізаванага прынцыпу членства (прыналежнасць да БДА наогул акрэсліваецца словам „удзельніцтва"). Гэта, безумоўна, не аблягчае дасягнення „масавасці партыйнага ахопу", на што звярталі ўвагу ўдзельнікі сходу, затое, на мой погляд, стварае адзіны ў нашых беларускіх варунках механізм прыцягнення да палітычнага руху людзей, якія сваю прысутнасць у ім хацелі б засведчыць дзеяннем, а не партыйным білетам. Працэс гэты настолькі марудны, што некаторыя робяць БДА закід у „элітарнасці", у „адмежаванні ад народу" і гэтаму падобнае. Тут зноў жа наступнае непаразуменне: тое, што БДА ў сваім пачатку згуртавала па сутнасці большую частку свядомай беларускай інтэлігенцыі, ёсць працэс натуральны ў палітызацыі такога грамадства, як беларусы на Беласточчыне. Горай было б, калі б нават сярод беларускай інтэлігенцыі ідэя беларускай партыі не знайшла прыхільнікаў. Мы мусім мець на ўвазе адно: БДА мабілізавала для беларускай справы амаль поўнасцю перспектыўныя (гэта значыць — маладыя) сілы свядомай беларускай інтэлігенцыі. Гэта, само сабою, ужо палітычнае дасягненне. І „выхад у народ" Аб'яднанне ажыццяўляе не праз працяганне персанальных анкетаў і партыйных кніжачак, а праз прапановы такіх ідэй (ды спосабаў іх здзяйснення), якія маюць на мэце адно — вырата-

(Працяг на стар. 5)

## З нагоды юбілею

Кожны юбілей апрача радасці святкавання нясе з сабой хвіліны рэфлексіі над пройдзеным шляхам, задумы над будучым. Якімі былі мінулыя трыццаць пяць гадоў? Напэўна былі гадамі штодзённай карпатлівай працы для дабра нашай беларускай грамадскасці ў Польшчы. Гэта ўжо эпоха, якой нельга не заўважыць, якая накінула выразны адбітак у гісторыі нашай культуры. БГКТ і „Ніва" ўзніклі ў пачатку 1956 г. і было гэта вынікам тых перамен у палітычнай сферы нашай краіны, якія давялі пару месяцаў пазней да польскага Кастрычніка.

Сёння, калі столькі змянілася ў нашым жыцці, нярэдка чуваць з розных бакоў абвінавачванні ў тым, што газета ў мінулым служыла папярэдняму рэжыму. Так, газета выдавалася, як і большасць часопісаў у Польшчы, партыйным канцэрнам РСВ "Прэса-Кніжка-Рух" і не магла быць вольная ад палітычнага кантролю з усімі яго скуткамі. Але нельга з-за гэтага памяншаць ролю тыднёвіка ў грамадска-культурным жыцці беларускай нацыянальнай меншасці ў нашай краіне. А яна была значнай. Думаю, што ў будучым, калі астынуць эмоцыі, прыйдзе пара і на аб'ектыўную ацэнку беларускага руху ў 1956-1989 гадах.

Наш тыднёвік хоча служыць усім беларусам у Польшчы, яднаць іх вакол ідэі захавання нацыянальнай свядомасці, развіцця культуры і асветы беларускай нацыянальнай меншасці. Таму і ў нас уступ на старонкі адкрыты ўсім беларускім арганізацыям і ўсім беларускім асяроддзям, якія намераны ажыццяўляць гэтыя ідэі.

Будзем супрацоўнічаць з такім дзеяннем, якія маглі б прывесці да падзелаў у нашай і так не маналітнай грамадскасці. І няхай не здзіўляюцца і не маюць прэтэнзій карэспандэнты, што не друкуем дапісаў, у якіх праводзіцца крытыка асобаў ці груп не пры дапамозе аргументаў, а эпітэтаў. Нам патрэбна еднасць і давайце шукаць дарог, якімі да гэтай еднасці можна дайсці як мага найхутчэй.

В. Луба

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 377

**Мікалай Гайдук**

**ПРЫНЯТЫ Ў ЧЛЕНЫ САЮЗА ПОЛЬСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ. ВІНШУЕМ!**
**РЭДАКЦЫЯ „НІВЫ" І ЎПРАВА „БЕЛАВЕЖЫ"**

# ЖЫЦЦЁ ЗА ЖЫЦЦЁ

У новых палітычных і эканамічных умовах, калі адплыла ў нябыт „усёведаючая" цэнзура і калі для нас, як манна з неба, капнула трохі граша, Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" пачула павеў як бы свежага паветра — на працягу неверагодна кароткага прамежку часу апублікавала ажно чатыры, чаго раней не бывала і быць не магло, паэтычныя кніжкі: „Сезон у белых пейзажах" Надзеі Артымовіч, „Блакітны вырай" Уладзіміра Гайдука, „Родны схоў" Віктара Шведа і „Над днём похіляна" Зосі Сачко (апошні зборнік, напісаны не беларускай літаратурнай мовай, а той гаворкаю, якой карыстаецца ў сваім штодзённым побыце насельніцтва падбельскіх вёсак і, вядома, паэтка).

Апрача Віктара Шведа, творчасць якога рэгулярна паяўлялася ды паяўляецца на старонках нашай перыёдыкі, то і Артымовіч, і Сачко, і ўжо тым болей Валодзя Гайдук апошнімі доўгімі гадамі друкаваліся зрэдку, быццам ад нейкага свята. А тым часам паэты ж яны ад прыроды, на дзіва і шчасце, арыгінальныя, ніяк непаўторныя, кожны са сваім лёсам і творчым усплёсам. Кожны з іх мае відавочныя паэтычныя дасягненні. Калісьці паявіліся іх першыя кніжкі. Але сёння страшна падумаць, што ад таго часу мінула ўжо дзесяць, а ў выпадку Гайдука аж дваццаць гадоў. І нічыё сэрца, мусіць, не балела, і ніхто, мабыць, не трывожыўся тым, што рэдкія жамчужыны беларускай нацыі беспардонна ўтоптваліся ў месіва штодзённшчыны. І зусім ёкнула ў мяне сэрца, калі даведаўся, што надрыхтаваны да друку нашым „сялянскім" паэтам, таленавітым Валодзем Гайдуком цэлы сшытак вершаў нехта недабразычлівы альбо мужыцка-тупы ва ўразуменні з'яў і фактаў культуры закінуў у цёмны запечнік канцылярыстаў. Потым хтось іншы, відаць, скеміў, падкінуў на віднае месца...

Паэзія значна глыбей, чым проза, адлюстроўвае душу свайго народа, яго эмацыянальныя дыяпазоны, яго фантазію, светаўспрыманне, ідэалы. Невыпадкова ж святыя кнігі розных рэлігій карыстаюцца паэтычнай мовай. Паэзія, асабліва лірычная, у адрозненні ад прозы, не выказваецца пра чалавека ў свеце, але пра цэлы свет у чалавеку. І каб як мага больш сказаць, паэты гавораць скарачэннямі, вобразна, метафарычна.

Шматзначнасць, сканцэнтраванасць паэтычнага слова можа адштурхоўваць тых чытачоў, якім давалі гладкапіс, прасталінейнасць. Але ёсць жа, на шчасце, і такія, хто — умеючы засяродзіцца, з насалодай перачытваючы лірычныя вершы — спазнае іх рэфлексійную і пачуццёвую прамяністасць. Злучыўшыся з культуратворчай з'явай, такі чытач сам напраменьваецца светам прыгажосці, дабра і вышэйшых этычных вартасцяў, тым усім, чым толькі і павінен па сутнасці жыць нармальны чалавек.

Чатыры новыя паэтычныя кнігі нашых „белавежцаў", гэта чатыры свежыя галасы супраць трывіяльнасці нашага часу, супраць калектывізму мыслення і дзеяння. І ў кожнага з іх свой почырк, свая мелодыя і рытм.

А тая адметнасць кожнага з іх ямчэй раскрываецца іменна праз параўнанне, супастаўленне з іншымі творчымі паэтычнымі манерамі.

Насамперш увагу прыцягвае кніга Надзеі Артымовіч, дакладней кажучы, вонкавы выгляд яе верша — астрафічны, арытмічны, як бы груваскі, неўпарадкаваны, які сам па сабе нагадвае польскі wiersz zdaniowy, той верш, якім у Польшчы дый на Захадзе карыстаюцца многія паэты. Але ў беларускім вершаскладанні, на шырокім фоне дамінуючай сілабатонікі альбо яе варыянтаў ён успрымаецца як форма эксперыментальная. Калі ж заглянем у паэтычныя зборнікі Артымовіч, то ўбачым, што для яе ўласцівы толькі такі верш. Ім паэтка выразна адрозніваецца ад усіх іншых „белавежцаў", якія таксама жывуць у Польшчы і таксама хочучы-няхочучы паддаюцца ўплывам заходніх мастацка-эстэтычных каштоўнасцяў. Але ў выпадку Артымовіч, дый наогул справа тут, бадай, не ў тых пасрэдных ці непасрэдных польскіх уплывах.

Як вядома, усе з нашай рэчаіснасці факты, з'явы, працэсы маюць свае рытмы пераменлівасці. Чалавек па сабе і ведае і адчувае фізічныя, хімічныя, эмацыянальныя, псіхічныя і іншыя амплітуды. Гэтыя біялагічна-псіхічныя рытмы, хоць нібы такія самыя, відаць, у той самы час усё-такі ў кожнага з нас чымсьці непадобныя на іншых.

Верш Надзеі Артымовіч, які пры першым чытанні гучыць для нас арытмічна, выяўляе, па сапраўднасці, проста іншую, толькі для паэткі характэрную рытміку. Яна, гэта рытміка, ідзе не ад кніжна-літаратурнай традыцыі, а адтуль, ад унутранага складу і хвалявання яе асабовасці. А наколькі яе асабовасць фармавала перш за ўсё знешняя рэчаіснасць, то „нерытмічныя" рытмы вершаў Артымовіч якраз і дакладней і глыбей адлюстроўваюць складанасць і драматызм як чалавечага існавання, так і яго часу.

Мастацтва ведае два шляхі асваення рэчаіснасці: шлях парадкавання, пошукаў гармоніі, прыгажосці ў свеце і шлях паказу таго ж хаосу з'яў і фактаў у яго „хаатычным" кшталце. Абагульняючы творчае дасягненне паэтаў-„белавежцаў", можна сказаць, што ўсе яны, кожны пасвойму, хочуць перамагчы безупынныя, хуткаплынныя працэсы прамінання, распаду, адмірання. Гэтаму супрацьстаўляюць і несмяротнае хараство жаночага цела, і вечную прыгажосць прыроды, і, урэшце, захопленасць умельствам чалавека, стваральніка матэрыяльнай і духоўнай культуры, якая сваёй арганізаванасцю і структурай і ёсць найлепшым запярэчаннем першабытнай хаатычнасці.

І ранейшыя вершы Надзеі Артымовіч, і тыя, якія ўвайшлі ў кнігу „Сезон у белых пейзажах", сведчаць, што паэтка ідзе другім шляхам. У яе таксама ёсць жаданне „зразумець сябе, цябе", навакольны свет. Але як гэта зрабіць, як убачыць гармонію і еднасць у свеце, калі ў самой сябе няма той сугучнасці? Каб разгледзець што-небудзь, зразумець, пазнаць, звычайна затрымліваюць час, якому ўсё падлягае. Аднак жа вырваўшы прадмет з цягу часу — ці пазнаем мы рэчы ў іх сапраўднасці? Усімі вершамі Артымовіч гаворыць пра немагчымасць лагічнага ўразумення працэсуальнасці з'яў і адэкватнага выражэння паўсюднай цякучасці, хвіліннасці, усеабдымных пераўтварэнняў. Усё і ўсюды плыве і пераліваецца адно ў другое, перамешваецца, накладаецца, заціраюцца дагэтуляшнія іерархіі, граніцы, меры. І таму ў яе паэтычных творах у адным плане стаяць „ікона, месяц, адрас". Страх неразлучны са сном, бель зімы зліваецца з вершам, верш з падарожжам-хваробай, і таму „час прыкрыты блакітам", „іржа твой цень", „ноч калыша кніжку", „над салодкімі хвілінамі заткнуты нож", „сезон у белых пейзажах".

У вершах яе тут і там раптам паяўляюцца фрагменты („пейзажы") чагосьці, што па сваёй прыродзе ніколі не можа выявіцца, выйсці напаверх, уфармавацца — напрыклад, пачуццё настальгіі або задуменне, прадчуванне, надзея, маўчанне. Зместу вершаў Артымовіч адпавядае іх форма. Інтанацыйны малюнак твора, яго кампазіцыя і семантычная „неразборлівасць" паяўляюцца як вынік спомненай немажлівасці, пераскоку вобраза-думкі, абрывістасці, маментальнасці, кантамінацыі розных планаў.

Такое светаўспрыманне Артымовіч грунтуецца на выкарыстоўванні ёю вельмі суб'ектыўных паэтычных сродкаў. Густа тут ад уласцівых толькі ёй эпітэтаў, метафар, параўнанняў, напрыклад: „чужое паветра", „сляпое маўчанне", „самотная іржа", „галодная поўнач", „паўаслеплыя люстры", „сталы цішыні", „бязвокі гушчар", „азёрная пасцель", „хмары цішыні", „ноч як парашок на боль зубоў", „самотнасці як прыпеў" і г.д. Праз іх у вершах Артымовіч праблісквае новы сэнс, вылузваюцца дзе-нідзе катастрафічныя мікрасветы і штосьці для чытача яшчэ невядомае, а што ўкрываецца за неразгаданымі сімваламі: „трэцяе маўчанне", „перадапошняя старонка трэцяй кніжкі", „перадапошні дзень", „перадапошнія колеры".

Як бачым, і ў форме верша, і ў змесце паэтычнай думкі Надзея Артымовіч на нашым беларускім літаратурным фірмаменце паэтка унікальная. Але за гэту арыгінальнасць жыццё бярэ ад яе за жыццё сваю празмерную зарплату.

**ЯН ЧЫКВІН**

# У ЦІШЫ ВЫРАТАВАННЕ

Ёсць людзі, якія носяць на сабе таўро трагічнасці, якія — нападобе рамантычных герояў — пакутуюць за мільёны. Гісторыя літаратуры адзначыла іхнія прозвішчы: беластачанін Анджэй Бабінскі, Анджэй Бурса, Галіна Пасвятоўская, Эдвард Стахура, Рышард Мільчэўскі-Бруна, Рафал Ваячак... Сёння крытыка называе іх „каскадзёрамі літаратуры", падкрэсліваючы індывідуалізм, непаўторнасць: „Несумненна, яны зайшлі далей за тое, куды мы дайшлі, дойдзем. Выйшлі па-за папяровы далягляд літаратуры" (Ян З. Брудніцкі). Паэтычная аўра, клімат іхніх вершаў, як здаецца, блізкія паэзіі Надзеі Артымовіч, упэўненай, што „паэтам з'яўляецца той, каму выпаў гэтакі лёс". Тут яна аспрэчвае думку Цыпрыяна Каміла Норвіда, што „чалавек паэтам не ёсць, чалавек паэтам бывае", якую шматлікія літаратары лічаць трапнай. Паэзія для Надзеі Артымовіч — гэта нешта „большае за словы"; яна піша яе сваім жыццём. Зусім так, як запэўніваў Рафал Ваячак: „Сапраўды кажу табе, чалавек паэтам ёсць. Ёсць ім, жывучы. А бывае вершаплётам, часам (...). Бывае ім тады, калі не стае сілы... каб падняць цяжар свайго жыцця. Тады ўцякае ў штучна агароджаны агародчык і садзіць сумныя кветачкі на ахайнай градцы" (Санаторый. Песня чацвёртая).

Як моцна Надзея Артымовіч піша паэзію *жыццём*, сведчыць яе чарговы томік вершаў „Сезон у белых пейзажах", які пацвярджае праўдзівасць таленту паэтэсы, выразнасць асобы, індывідуалізм і ўспрыймальнасць. Аўтарка „Роздумаў" паслядоўна пракладае свой шлях, мае адвагу быць сабой, рашуча пазбягае „калектыўнай паэтыкі"; піша супроць „кагосьці і чагосьці", насупор паэтыкі іншых „белавежцаў", насупор агульна прынятай манеры. Шматразова ўжо адзначалі „непаэтычнасць" гэтых вершаў, як бы недапрацаваных, якія сваёй фармальнай аморфнасцю нагадваюць строфы Анджэя Бурсы. Гэта не хібы, але стыль, адэкватны спосабу жыцця, таму што якраз паэзія балесным вузлом звязвае паэтэсу са светам.

Чытаючы паэзію Надзеі Артымовіч, мы маем уражанне, што не існуе найменшага прамежжа між аўтаркай і замкнутымі ў паэтычным слове перажываннямі, нараджаючымі рэфлексіі, што вядуць да пытанняў няпростых, каб не сказаць, — да пытанняў без адказу. Які ж адказ можна знайсці на праміnanне свету, смутак нетрывучасці, выпадковасць чалавечага жыцця, наканаванне і лёс?

Гераіня вершаў Надзеі Артымовіч адпрэчыла ўгладжанае жыццё ў імя індывідуальнай іерархіі вартасцяў і расплачваецца за гэта бытаваннем у шэрасці будзёншчыны. Калі універсальныя вартасці рассыпаюцца, а іншыя падводзяць, застаецца адно змагацца з уласнай экзістэнцыяй і прыняць удзел у гульні без выбару, у якой стаўкай з'яўляецца ўласнае жыццё, годна пражыты дзень, ліхаманкавы пошук сардэчнага і чалавечага ў чалавеку. Наша гераіня стаецца палонніцай уласнае псіхікі, цяперашняга часу, які знерухомеў, а разам з ім застыў і яе ўнутраны свет. Час адмервае затхласць дзень за днём. Ужо не задавальняе яе раскрыванне і называнне па імені зла, ні спроба вяртаць словам іхнія першаасноўныя значэнні. Расце адчуванне самоты, браку пачуццёвай узаемнасці ў людзей, падманутых спадзяванняў, віны перад пакінутай зямлёй бацькоў і родных. У чаргова прэзентаваных вершах выразна назіраем паглыбленне інтэнсіўнасці гэтых адчуванняў і станаў душы, а ўнутраны боль пераўтвараецца амаль у крайнюю роспач, стаючыся ажно нестэрпна адчувальным і, праз гэта, невыносным. Які канец нясе гераіні гэты псіхічны стан, у якім яна апынулася? Надыдзе самазнішчэнне? Апамятанне? Застаецца яшчэ цень надзеі. Маўчанне, „ціш", засяроджанасць нясуць шанц паратунку.

Вершы са зборніка „Сезон у белых пейзажах", патрасаючы сваёй непасрэднасцю, складаюць гуманістычны дакумент паэтычнага запісу лёсу чалавека напрыканцы дваццатага стагоддзя, які разгубіўся ў лабірынце ўнутраных супярэчнасцяў. Паэзія Надзеі Артымовіч у штораз большай ступені страчвае, як лічу, сваю індывідуальную суаднесенасць, асвятляючы праўдзіва і надзвычай кранальна сітуацыю сучаснага чалавека, пранізаную неспакоем, бояззю і няўпэўненасцю, напоўненую тугой за мінулымі гадамі і мінулым светам, які ўсё яшчэ явіцца нам больш бяспечным і справядлівым за той, што дадзены нам у дасведчанні тут і цяпер.

Гэтыя зрэбныя строфы, як бы няскончаныя і арытмічныя, усведамляюць нам, што кожны з нас піша сваім жыццём уласны дзённік роспачы і надзеі, дзённік нашага лёсу — каскадзёраў жыцця.

**ТЭРЭСА ЗАНЕЎСКАЯ**
Пераклаў з польскай мовы Ян Максімюк



**Шаноўная рэдакцыя!**

Хаця я ўжо даўно не пісаў вам, але газету чытаў ад дошкі да дошкі. Хачу на старонках „Нівы" сардэчна падзякаваць Юрыю Латышонку з Беластока, які стварыў мне магчымасць жыць смуткамі і радасцямі беларусаў у Польшчы і ў іншых краінах свету. Дзякуючы яму, я атрымоўваў газету на працягу трох кварталаў 1990 г., з 1 па 39 нумар. 40 нумара я ўжо не атрымаў і нікога ў гэтым не абвінавачваю.

Чым радавала мяне ваша газета? Перш за ўсё яна адкрыла мне гісторыю Беларусі, гісторыю ў новай трактоўцы. Адкрыла многія, незаслужана забытыя імёны з плеяды нашых слаўных суайчыннікаў на Радзіме і па-за яе межамі. Я імі ганаруся і думаю, што ганарыцца імі ўвесь беларускі народ, дзе б ён не пражываў. Ганаруся і тымі беларусамі, якія зараз жывуць у Беларусі, у Польшчы і ў іншых краінах і рэспубліках. Газета адводзіць шмат месца іх жыццю і адраджэнню беларускай мовы. Гэта цяжкі працэс, але я спадзяюся, што яна адродзіцца.

Адводзьце яшчэ больш увагі на старонках тыднёвіка беларускаму замежжу! Як ім там жывецца? Карыстаючыся нагодай, хачу сардэчна падзякаваць Яну і Аліцыі Пятроўскім з Гэйнсвіла (ЗША), якія прыслалі святочныя віншаванні.

Што мяне засмуціла на старонках „Нівы"? У першую чаргу тое, што даведваўся аб пажарах цэркваў. Сэрца балела. Як магла злачынная рука падняцца на святое з святых і гэта ў наш час! Нам, праваслаўным, цяжка зараз тут прывыкнуць да такой рэлігійнай свабоды. Слава Богу і ў нас пачалося прасвятленне народа. Нам вельмі патрэбна ваша маральная падтрымка.

**Іван Самарай,**
**463000, Казахская ССР.**
**г. Актюбинск,**
**Ленинский проспект 70,**
**корп. 1, кв. 147.**

**P.S.** Усе атрыманыя газеты „Ніва" з 1 па 39 нумар я адправіў — частку ў Віцебск, частку ў Нарыльск. Чытаю не толькі я, але і іншыя людзі, якія, прачытаўшы, адсылаюць яе далей. Вось атрымоўваецца ў нас такая эстафета. Пакуль у нас падпісвацца на „Ніву" нельга. Зноў даводзіцца звярнуцца з просьбай да беларусаў у Польшчы або ў іншых краінах. Памажыце атрымоўваць „Ніву"! Можа хто-небудзь зможа даслаць мне нумары „Нівы" за IV квартал мінулага года (№ 40-52) і высылаць газеты ў 1991 г. Магу ўзамен высылаць савецкія газеты і кніжкі.

**Ад рэдакцыі:** Дасылаем вам бракуючыя нумары „Нівы" за мінулы год. Інфармуем, што ў Беларусі ўжо можна падпісацца на „Ніву". Падпіску прымаюць усе аддзяленні „Саюздруку". Кошт падпіскі значыцца на 12-ай старонцы.



Беласток, вул. Млынова. Малюнак У. Петрука.

**ВЕСТКІ З СЕМЯНОЎКІ**

У Семяноўцы ліквідавалі кіёск „Рух" і клуб. Кіёск забралі, толькі невялікая падмуроўка асталася. Сумна глядзець на гэта.

Клуб стаіць пусты. Хлопцы збіраюцца ў прыбудоўцы, каля клуба. Там гуляюць у карты. Перад Калядамі адкрылася прыватная спажывецкая крама. Знаходзіцца яна ў прыватным памяшканні. Крамнік жыве ў Гайнаўцы і сам прывозіць усе тавары. У краме на змену працуюць уласніца дома і яе братавая. Тут можна танней купіць вяндліну і шмат чаго іншага, але няма алкаголю і малочных прадуктаў. Далей працуюць каапературныя крамы: спажывецкая, дзве з прамтаварамі і спажывецкі кіёск каля чыгуначнага прыпынка.

Найбольшая бяда — гэта ліквідацыя пункта механічных паслуг у Семяноўцы. Цяпер за ўсім трэба ехаць у Нараўку. Сюды дагэтуль за паслугамі прыязджалі сяляне з чатырох вёсак і то не ўсе былі задаволены, а што ўжо гаварыць, калі збяруцца гаспадары з усёй гміны? Найгорш будзе ў час касьбы і жніва. Кожны дзень тут дарагі, а ўсім адразу нельга скасіць ці змалаціць. Цяпер яшчэ больш людзі будуць наракаць.

Солтыс вёскі Павел Шыманюк пасля трыццацігадовай дзейнасці адышоў на заслужаны адпачынак ад грамадскіх спраў. Зараз солтысам аднагалосна выбраны Грыша Трусевіч, малады селянін.

**Аўрора**

**Пытанні да ВІКТАРА СТАХВЮКА — сакратара Галоўнага праўлення БГКТ і каардынатара Краёвай управы БДА.**

— *У мінулым адносіны паміж Праваслаўнаю царквою і беларускім свецкім рухам складаліся па-рознаму. Хачу запытацца, як гэтая справа выглядае сягоння ды як праваслаўныя кругі на Беласточчыне бачаць цябе асабіста, бо ж і ў БГКТ і ў БДА выконваеш высокія функцыі ды ў пэўным сэнсе ўвасабляеш гэтыя абедзве арганізацыі?*

— Гэта, бадай, самае цяжкое пытанне, якое так нечакана можа атрымаць чалавек, які займаецца грамадскімі і палітычнымі справамі. Але здаецца мне, што праваслаўныя кругі не павінны бачыць мяне ў дрэнным святле — з увагі хоць бы і на тое, што, калі я вярнуўся з Чэнстаховы, першым асяроддзем, да якога я далучыўся, у якое я трапіў, было менавіта праваслаўнае. У гэтым часе, разам з іншымі, давялося мне арганізаваць Праваслаўнае брацтва для дарослых. Давялося мне нават рэгістраваць гэтае брацтва ў Ваяводскай управе. Беручы пад увагу апошнія два гады маёй дзейнасці на Беласточчыне — выбары ў парламент і выбары ў самаўправы — ды сам факт, што сягоння ствараем з двух нашых асяроддзяў — праваслаўнага і свецкага — еднасць, гэта значыць Раду беларускіх арганізацыяў і асяроддзяў, ды нягледзячы на ўсялякія тэндэнцыі ў нашым руху, я адчуваю, што даволі добра ўмею дагаварыцца з праваслаўным асяроддзем. Сцвярджаю гэта як прадстаўнік Беларускага дэмакратычнага аб'яднання і Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

— *Адбыўся форум беларускіх арганізацыяў і асяроддзяў. Мне здаецца, што прысутныя на ім праваслаўныя святары не занялі да канца яснага становішча ў справе згаданай Рады беларускіх арганізацыяў і асяроддзяў.*

— А мне здаецца, што з увагі на вельмі кароткі час, які святары маглі прысвяціць гэтай сустрэчы...

— *Але ж, ідэя сустрэчы была вядомая загадзя?..*




— На гэтае пытанне таксама адкажу. Па-мойму, святары сказалі ўсяго сваё крэда, гэта значыць сказалі, што праваслаўнае асяроддзе таксама імкнецца да аб'яднання ўсіх праваслаўна-беларускіх арганізацыяў і сілаў на Беласточчыне. Сягоння такі час, будучыню якога вельмі цяжка вызначыць. Неяк, мабыць, інтуітыўна, і праваслаўныя, акрэслены ўсяго як праваслаўныя, і беларусы адчуваюць пагрозу для сваёй будучыні. Возьмем, для прыкладу, справу беспрацоўя. Беларус адчувае, што першым будзе стаяць у чарзе перад бюро пасрэдніцтва працы. Усё гэта выклікае нейкі грамадскі клімат, які стварае насцярожанасць ды пачуццё няўпэўненасці адносна будучага. Думаецца мне, што нягледзячы на асяроддзі, у якіх гуртуюцца беларусы — ці толькі праваслаўныя, ці беларускія свецкія — то думкі ва ўсіх аднолькавыя, таму што мы адзін і той жа народ. Да гэтай сустрэчы (маю на думцы форум) я як прадстаўнік беларускай свецкай плыні двойчы меў размовы з Уладыкам Савай, у часе якіх прыйшлі мы да супольнага вываду — нам трэба яднацца. А цяпер, вяртаючыся да форума, дык нягледзячы на тое, як далёка была выкрышталізавана лінія аб'яднання, то і айцец Аляксандр Хіліманюк, і айцец Рыгор Місяюк прадстаўлялі ў сваіх выступленнях адну і тую ж царкоўную лінію.

— *Мне асабіста нейк не хапала ў іхніх выказваннях для праваслаўнае асяроддзе прыметніка „беларускі".*

— Думаю, што не цалкам яно так. Адзін і другі святар дэкляраваў сваё беларускае паходжанне, а значыць слова „беларускі" паяўлялася ў іхніх вуснах неаднойчы — гэта па-першае. Па-другое: вядома, што пачынальнікам ідэі аб'яднання ўсіх плыняў у беларускім грамадстве Беласточчыны, гэта значыць свецкіх і царкоўных, з'яўляецца свецкае асяроддзе, а ў прыватнасці Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, з нутра, якога і выйшла гэта ідэя. Ужо сам факт, што на такую сустрэчу з'явіліся праваслаўныя святары і, хоць і ад уласнага імя, але ўсё-такі трымалі лінію Царквы, абазначае, што хочуць яны аб'яднання ў беларуска-праваслаўную, ці наадварот, арганізацыю. Інакш кажучы, Царква жадае, каб у нашым жыцці на новым этапе, бо можна тут казаць пра новы этап грамадскага жыцця, аднолькава ўспрымаліся прыметнікі „беларускі" і „праваслаўны".

— *Свецка-царкоўны маналіт?*

— Свецка-царкоўны маналіт!

# БДА ПАСЛЯ ГОДА ДЗЕЙНАСЦІ

**(Працяг са стар. 1)**

ванне беларускага этнасу на Беласточчыне ад эканамічнай і духоўнай смерці. Дадаўшы да гэтага ангажаванасць у змаганне за дэпутацкія (у органах самакіравання і ў парламенце) мандаты, мы атрымаем мадэльны прыклад партыйнай актыўнасці. На жаль, дзеячам БДА даводзіцца рабіць нашмат больш. Акрамя гэтай „чыстай палітыкі" амаль усе актывісты БДА ангажаваны і ў канкрэтныя вырашэнні асобных гаспадарчых пытанняў на ўзроўні гміны. Гэта пакуль што здаецца неабходным (бо ў агульнай свядомасці дамінуе далей погляд, што „партыя ўсё зробіць за нас"), але ў перспектыве — пагражае паралічам палітычнай актыўнасці і пераўтварэннем палітычнай сілы ў нейкі хаўрус прадпрыймальнікаў, што шукае ўласнай (эканамічнай перад усім) выгады.

Што зроблена БДА за год, прадставіў на сходзе старшыня С. Яновіч (ягоны даклад амаль поўнасцю апублікавала „Ніва"). І хоць зроблена было нямала, у дыскусіі пасля даклада нікому не прыйшло ў галаву плюхацца ў лужыне самазадаволенасці. Пераважыў аналіз недахопаў і хібаў. Старшыня Тэрытарыяльнай рады БДА ў Бельску Славамір Іванюк звярнуў увагу на надзвычай слабую і нетэрміновую інфармацыю, якая выходзіць з Галоўнай рады (увогуле, прапаганда дзейнасці БДА вядзецца даволі вяла). Гэтую ягоную думку падтрымала Людміла Кісляк, старшыня Тэрытарыяльнай рады ў Гайнаўцы. „Беларускія Навіны" — выданне Галоўнай рады БДА — засяроджваюцца на дакументацыі дзейнасці Аб'яднання і на тэкстах „агульнапалітычнага" характару і з увагі на крайнюю нерэгулярнасць выхаду ў свет інфармацыйнай функцыі выконваць аніяк не могуць. Усе пагадзіліся, што БДА патрабуе аказіянальнага ксеравыдання (тыражом каля 100 асобнікаў) з актуальнай інфармацыяй. Усе таксама звярнулі ўвагу на слабую палітычную актыўнасць БДА ў самім горадзе Беластоку — тут неабходна арганізаваць асобную ад Галоўнай беластоцкую Тэрытарыяльную раду БДА. Камунальныя выбары паказалі, што ў гмінах даволі лёгка ўзяць уладу, больш складаная справа ў гарадах, найцяжэй — у Беластоку, таму БДА павінна прысвяціць гэтай справе выключную ўвагу (Л. Тарасэвіч). А. Міраповіч прапанаваў выдзяліць групу, якая займалася б кадравай палітыкай (вышукоўваннем спецыялістаў, у гаспадарчай дзейнасці перад усім, якія маглі б запоўніць той кадравы вакуум на беларускім арэале Беласточчыны). Ён жа прапанаваў таксама тэкст заявы ў справе пажараў і рабункаў цэркваў на Беласточчыне, які быў апрабаваны сходам аднагалосна. Пра кардынальную палітычную справу — сёлетнія парламенцкія выбары — гаворкі на сходзе не атрымалася (далей яшчэ невядомы нават праект выбарчай ардынацыі). Рэфлексія над гадавым перыядам існавання і дзейнасці БДА, як кажуць, надзелена была „пачуццём рэальнасці", што тычыцца магчымасцяў беларускай партыі, і ніхто не шукаў нейкага апраўдання асобным няўдачам у неспрыяльных вонкавых абставінах. „Мы столькі вартыя, колькі зрабілі ўласнымі сіламі", — афарыстычна падсумаваў мінулы год БДА Лёнік Тарасэвіч.

**ЯН МАКСІМЮК**
Фота аўтара

---

У практыцы мы ж яго і ствараем, бо ўсе жывем у гэтых абедзвюх сферах жыцця — іначай немагчыма. У праваслаўнай і беларускай плыні адны і тыя ж пытанні, а вырашыць іх можам толькі супольна, без падзелаў, а калі будуць нават розныя пункты гледжання на нейкае пытанне, дык дзеля гэтага і ствараем Раду беларускіх арганізацыяў і асяроддзяў — хай там прадстаўнікі паасобных асяроддзяў пераконваюцца і даходзяць да супольных высноў і рашэнняў, бо іначай загінем.

*— Дзякую за размову.*

Гутарыў і запісаў
**Алесь Дзеін**



*Віктар Стахвюк.* *Фота Аляксандра Максімюка.*

# НАШЫ КАРАНІ

## III. ЗЯРНЯТЫ

На жаль, першыя парасткі хрысціянства на нашых землях затапталі капыты коней, на якіх гарцавалі тут у V-VI стагоддзях пасля Нараджэння Хрыста дзікія азіяцкія заваёўнікі — гуны і авары. Толькі праз два стагоддзі гэтыя бязлітасныя захопнікі былі выгнаны адсюль. Тады ў VI-IX ст.ст. канчаткова сфармаваліся і ўсталяваліся на сваіх землях усходнеславянскія плямёны, сярод іх таксама беларускія: крывічы, дрыгавічы, радзімічы і іншыя. У іх пастулова наладжваліся і замацоўваліся сувязі не толькі з суседнімі, але і з больш адлеглымі землямі і дзяржавамі. У Славяншчыну з поўдня і захаду ўсё мацнейшай хваляю плывуць звесткі пра веру ў Адзінага Госпада Бога. Цяпер прапаведваннем і ўмацоўваннем веры ў Хрыста Збавіцеля займаюцца не толькі купцы ці збеглыя нявольнікі. Да славян кіруюцца з Добрай Весткай належна падрыхтаваныя прапаведнікі. Вера ў Хрыста становіцца не толькі надзеяй самых бедных і найболей пакрыўджаных, але таксама ўсё часцей верай племяннай старшызны і князёў.

Разам з духоўным адраджэннем чалавека, хрысціянства несла на нашыя землі больш прагрэсіўныя грамадскія адносіны, садзейнічала яднанню разрозненых родаў і плямёнаў у мацнейшыя дзяржаўныя арганізмы, умацоўвала цэнтральную ўладу, адкрывала адсталым народам доступ да велічных здабыткаў палітычнага, гаспадарчага і культурнага жыцця развітых краін з пабярэжжа Міжземнага мора, адчыняла новыя шляхі да павышэння матэрыяльнага ўзроўню жыцця і духоўнага дасканалення чалавека, змякчала прымітыўныя норавы і абычаі, дзікуну надавала чалавечае аблічча, вяртала вобраз і падабенства Божае.

Аднак як усё, што нясе з сабою поступ наперад, прагрэс, таксама і хрысціянства ўваходзіла ў жыццё народаў з натугаю, у цяжкім змаганні са старымі паганскімі вераваннямі, з пануючым злом. Аднак хоць паволі, але ўсё ж няўхільна наступала хрысціянізацыя славянаў. Каля 860 г. навука Хрыстова пашыралася сярод славянскіх плямёнаў угліччаў і ціверцаў, якія жылі паблізу чарнаморскага ўзбярэжжа, на сённяшняй Паўднёвай Украіне. Хрысціянства прыняла значная частка жыхароў Кіева пры панаванні там князёў Аскольда і Дзіра (каля 860-882 гадоў) і пры іх была ўстаноўлена ў 862 г. кіеўская епархія на чале з епіскапам, імя якога, на жаль, не захавалася. У тым жа часе хрысціянства стала вядома ў беларускім Полацкім княстве, яно распаўсюджвалася таксама сярод насельніцтва суседняга з Кіевам беларускага Тураўскага княства і ў яго сталіцы, горадзе Тураве.

У тыя часы землі сённяшняй Беласточчыны, як і ўсе землі беларускага племя дрыгавічоў, уваходзілі ў склад Тураўскага княства, таму і да нашых продкаў пранікала Добрая Вестка, пашыралася тут асабліва ў Дарагічыне — цэнтральным асяродку гэтага рэгіёна.

Аднак паганскі князь Алег, які спачатку панаваў у Ноўгарадзе Вялікім, здабыў Кіеў, пазбавіў жыцця князёў Аскольда і Дзіра, разграміў не толькі кіеўскую хрысціянскую абшчыну, але крывава распраўіўся з хрысціянамі ў суседніх землях, у тым ліку і ў Полацкім, Тураўскім ды іншых княствах. Пашырэнне Добрай Весткі, навукі Хрыстовай на некаторы час запаволілася і на нашых землях. Але гэта было часовае паўстрыманне, бо пасеянае зерне Божай Праўды не загінула.

**Мікола Гайдук**

---

Нашы мясцовасці

## ВОЙШКІ

Вёска Войшкі (гміна Заблудаў) знаходзіцца недалёка ад ракі Нарва і мае ўсе ўмовы, каб стаць турыстычна-адпачынковай базай. Варта пацікавіцца мінулым гэтай вёскі, якая ўпамінаецца ўжо ў дакументах з XVI ст. Люстрацыя з 1576 г. сведчыць аб тым, што вёска знаходзілася ў каралеўскіх маёмасцях. Раней па-рознаму запісвалася яе назва: сёлы Войшынёв (1562), Войсне (1602) і Войшкі (ад 1772 г.). Вёска падзяляецца на тры часткі: Хвасты, Сярэдзіна і Вэтэшкі.

Цікавы таксама назвы урочышчаў: Подбеляне, Зарэчка, Лідзімо, Брудок, Лугі, Чэхавізна, Рэпіско, Курганэць, Лейцово, Надаткі. Дарога „Кнышынскі гостінэць" сведчыць аб тым, што Кнышын быў у мінулым важным гарадскім цэнтрам.

**М. Ляшчынскі**

## КАМУ КНІГІ?

Нядаўна ў нашу рэдакцыю прыйшлі бандэроль і ліст наступнага зместу:

*Шаноўная рэдакцыя!*

*Я выслаў на ваш адрас кнігу Т. Мана зь серыі „Скарбы сусьветнай літаратуры" для якой-небудзь установы (школы, ліцэя, бібліятэкі і т.п.) альбо грамадзяніна, якія могуць адчуваць пільную патрэбу ў беларускіх выданьнях. Паведаміце, калі ласка, каму можна дасылаць на Беласточчыну нашыя кнігі. Суполка згуртаваньня „Бацькаўшчына", якую мы ствараем у месьце Віцебск, пастараецца дапамагчы па меры сілаў сваіх.*

*З павагаю — Юрась Сьцяпанаў з беларускага Віцебску.*

Нашаму карэспандэнту дзякуем за кніжку. Распарадзімся ёю так, як жадаеце. Асобам і ўстановам, зацікаўленым атрымоўваннем беларускіх кніг, паведамляем адрас: **Беларусь, 210001 г. Віцебск, вул. Рэвалюцыйная, д. 9, кв. 3. Сьцяпанаў Юрась.**

# Іх папараць-кветка або. У амерыканскіх беларусаў

### 8. КЛІЎЛЕНДСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Як хутка бяжыць час! Вось ужо і люты 1991-га, а толькі што, здаецца, адшумеў у кліўлендскім „Полацку" 19-ы з'езд беларусаў Паўночнай Амерыкі, аб якім у „Ніве" яшчэ восенню мінулага года я дала даволі шырокі рэпартаж. Сёння бяру ў рукі зборнік паэзіі Наталлі Арсенневай „Між берагамі" (выд. Беларускім інстытутам навукі і мастацтва, Нью-Йорк — Таронта, 1979), які падарыла мне ў Амерыцы гэта васьмідзесяцісямігадовая паэтка (з роду Арсенневых, што па жаночай лініі даў паэта М. Лермантава), і думкамі зноў пераношуся туды, да іх, і сэрцам адчуваю іх сум і боль па страчанай айчыне...

*„...Хараша... Сэрца-ж міжвольна імкнецца*
*ў край, што яшчэ харашэйшым здаецца,*
*родны, найлепшы з краёў.*
*Там... Там усё быццам так, а інакай*
*хваляй у сэрца ліецца гарачай,*
*там... Там усё мне мілей:*
*Сіняе, сіняе неба бясконца,*
*шчыра вясёлае, яснае сонца,*
*далеч бязьмежных палёў.*
*Там, там у гожыя, цёплыя ранкі*
*песьняю срэбнай вітаюць жаўранкі*
*першыя пробліскі дня,*
*песьняю будзяць ціхія лагчыны,*
*дзе яшчэ пасмам густым, цёмна-сінім*
*сонна калышацца імгла.*
*Сонца расу там усьмешкаю сушыць,*
*вецер там краскі калыша,*
*варушыць..."*

**(„Родны край")**

Так, гэта бяздонны сум па бацькаўшчыне і нязменная адданасць ёй, пякучы боль за шматпакутную родную зямлю сабраў на сустрэчы столькі амерыканскіх і канадскіх беларусаў. Газета „Беларус" (№ 374, кастрычнік 1990 г.) канстатавала:

„На сёлетнюю Сустрэчу, як на ніякую з ранейшых, паклаў свой адбітак новы гістарычны час: упяршыню далучылася да эмігрантаў афіцыйная й напаўафіцыйная Беларусь у асобах дэпутата Вярхоўнага Савету БССР Генадзя Грушавога, шэфа сталай місіі БССР пры ААН Генадзя Бураўкіна, заступніка старшыні Сойму Беларускага Народнага Фронту Юрыя Хадыкі, заступніка старшыні таварыства „Радзіма" Уладзімера Навіцкага ды іншых гасьцей і наведнікаў зь Беларусі, Віленшчыны, Беласточчыны, Беларусаў Ленінграду, прадстаўнікоў установаў, арганізацыяў, прадпрыёмстваў у БССР. Асобаў пад 60 было зь Беларусі, каля 15 зь Беласточчыны, двое зь Вільні, адна зь Ленінграду. Былі Беларусы зь Нямеччыны, Ангельшчыны, Францыі. Усіх зьехалася чалавек пад 700".

Цяжка ўявіць сабе сёння, што тая сустрэча, дзе прысутныя былі амаль адны беларусы і часамі толькі праблісквала руская ці польская мовы, а выключна па-англійску гаварылі, бадай, толькі кангрэсменка з Кліўленда Мэры Роўз Оўкэр ды мэр Стронгсвіла Уолтэр Эрнфэлт, што сустрэча адбывалася не ў натуральнай беларускай стыхіі, а ў Амерыцы — на другім паўшар'і. І толькі тэлеграма ад Джорджа Буша і яго жонкі Барбары, ды выступленне спомненай кангрэсменкі аб культуры імігрантаў пераконвалі, што з'езд адбываўся ў чужой, але шматнацыянальнай краіне, дзе да паасобных нацый адносяцца ўсё ж з пашанай.



**Паэтка Наталля Арсеннева (справа) і пляменніца братоў Луцкевічаў, бабуля Данчыка Яніна Каханоўская. Фота аўтара.**



**Юлія Андрусішына (маці Данчыка) і Кастусь Мерляк, старшыня Беларуска-амерыканскага аб'яднання. Фота аўтара.**

19-ая Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі ператварылася, такім чынам, у грандыёзнае мерапрыемства з удзелам беларусаў з розных бакоў свету. Вядома, спрыяла гэтаму таксама пабудова новага беларускага цэнтра ў кліўлендскім „Полацку" і асаблівае заангажаванне аддзела БАЗА ў Кліўлендзе з яго старшынёю Янкам Ханенка, з Сяргеем Карніловічам і Кастусём Калошам. Але людзі, што прыехалі на з'езд, стваралі непаўторную атмасферу. Я

### 35 ГАДОЎ ТАМУ

# ЯК МЫ ВЫЯЎЛЯЛІСЯ

Усе знакі на зямлі і небе прадвяшчалі хуткае прасоўванне „беларускай" справы. Восенню, пасля зацвярджэння пастановы аб патрэбе стварэння беларускай арганізацыі, дакладваў я і ідэю беларускага тыднёвіка.

Калі цяпер, упарадкаваўшы свой архіў, гартаю дакументы звыштрыццацігадовай даўнасці, бачу ў іх і няўпэўненыя сляды першапраходцаў. Напрыклад, ва ўспомненай вышэй пастанове гаворыцца аб „Таварыстве беларускай культуры", якое трэба стварыць пры Ваяводскім праўленні Таварыства польска-савецкай дружбы. Аб гэтым сімбіёзе ўжо нічога не ўспамінае першы праект статута „Таварыства распаўсюджвання беларускай культуры і мастацтва". Праца абапіраецца тут на мясцовыя „цэнтры" (бібліятэкі, клубы, святліцы і г.д.) і гурткі. У сваю чаргу нізавыя арганізацыйныя адзінкі зніклі ў зацверджаным статуце БГКТ.

Так, так, пачыналі мы беларускую працу без гурткоў. Не буду разблытваць статутовыя крэндзелі, выпраўляць іх спрактыкаваны кандытар (Аляксей Казёл), я прымаў удзел у выпрацоўцы агульных напрамкаў дзейнасці таварыства і даў яму шапку.

Ініцыятыўная група, якая вызначыла першы абрыс арганізацыі, неўзабаве пашырылася і ператварылася ў арганізацыйны камітэт устаноўчага з'езда. Узначаліў яго настаўнік Уладзімір Саўко.

Падзялілі абавязкі, пачалі рыхтаваць з'езд. Я стаў намеснікам старшыні і адказным за прапаганду. Аднак, асноўным маім заданнем з'яўлялася заснаванне тыднёвіка. І гэтай ідэі я падпарадкаваў усе свае думкі. Хваляваўся. Я ж толькі васьмімесячны журналіст. Пачынаючы. Без вопыту ў арганізацыйных справах. А тут у тваіх руках будучыня газеты.

Пачаў танцаваць ад загалоўка, як часам рабіў і пры вершах. З маіх навокалзагаловачных піруэтаў не засталося ніякага следу. Помню толькі, што, шукаючы імя, канкрэтызаваў і характар тыднёвіка. Адкідваў двухчленныя назвы. Яны ад бяссілля выказаць думку коратка. А імя часопіса — сціслая думка. Павінна быць простай, суцэльнай і даходлівай. Вельмі хацеў уплесці гістарычнае карэнне. Беласточчыне аднак не пашанцавала з беларускімі выданнямі. Паспрабуйце, напрыклад, адаптаваць „Мужыцкую праўду"?. „Сялянская праўда"? „Вясковая праўда"? Вузка. Хоць асноўную чытацкую базу і размясціў у беластоцкай вёсцы, не завужваў гарызонт вясковымі рамкамі. Гэта наша адзіная газета на беларускай мове. Ужо амаль адчуваў дотык працягнутай з гісторыі рукі, таксама „адзінай" віленскай „Нашай нівы". Шмат чаго ў нас знойдзецца супольнага — вынік той жа „адзінасці".

Першую прыкідку ўзорнага макета „Нівы" зрабіў на „Трыбуне люду" (экспанат захаваўся — „ТЛ" з датай 1.X.1955). Злажыўшы ўдвая цэнтральны орган (фармат, які магла прыняць беластоцкая друкарня), размясціў алоўкам на дванаццаці старонках уяўны матэрыял. Потым гэты варыянт толькі відазмяняўся, дастасоўваўся да канкрэтных умоў і магчымасцей.

### АСАБОВАЯ ПОЛЬКА

Сапраўдная полька пачалася пры камплектаванні асабовага складу рэдакцыі. Калі цяпер гляджу на спісак (датаваны 27.X.1955) кандыдатаў у „Беларускую газету", які я атрымаў ад кадравіка беластоцкай РСВ — вачам сваім не веру. Тады спісак здзіўлення не выклікаў. Наадварот, бадзёрыў: амаль пры кожным прозвішчы стаяла: „вельмі хоча працаваць у „Беларускай газеце", „любіць пісаць". Апрача Міхася Хмялеўскага (працаваў у той час у „Беластоцкай газеце"), нікога з прапанаваных кандыдатаў я не ведаў. Пачаў знаёміцца асабіста — і разгубіўся. Усе шанаваныя і заслужаныя, але што з імі рабіць у рэдакцыі? Хоць і „любілі пісаць", ды, аказалася, ніякіх спроб у гэтым напрамку яшчэ не праявілі. Насцярожваў і пе-

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

### ВЫБРАЎ

Алік быў прыгожым хлопцам. Дзяўчат меў, як сабака кляшчоў. Усё перабіраў ды перабіраў. Адна была забедная, другая задобрая, трэцяя — не ўмела малявацца.

— Зрэшты, — гаварыў, — усе дзяўчаты, якія вучацца і працуюць — б...

Усе пасмейваліся з яго: „Вазьмі знайдзі цяпер дзяўчыну, якая не вучыцца і не працуе!“

Час ішоў, а Алік усё гуляў ды гуляў.

Аднойчы на вяселлі пазнаёміўся з дзяўчынай. Была прыгожая. Спытаў, дзе працуе. Аказалася, што нідзе. Закончыла кравецкую школу і сядзіць дома. Бацькі багатыя, і не трэба ёй працаваць.

Алік не адпусціў Лену ні на крок. Пасля танцаў разам апынуліся ў пасцелі. Лена не баранілася. Алік нічога дрэннага не падумаў аб ёй. Сустракаліся кожны дзень і кожны дзень кахаліся да непрытомнасці.

Лена сказала Аліку, што спадзяецца дзіцяці. Алік уцешыўся. Ужо нецярпліва чакаў сына. Вяселле было вялікае. Госці весяліліся амаль цэлы тыдзень. Было за што справіць такое вяселле! Бацькі Лены і Аліка хацелі, каб людзі доўга ўспаміналі гэтую ўрачыстасць.

Прайшло два месяцы, і Лену забрала „скорая“ ў бальніцу. Нарадзіла дачку. Алік прыехаў і, як дурны, бегаў да лекараў і акушэрак, дапытваючыся, ці чатырохмесячнае дзіця можа жыць. Усе смяяліся.

— Вашая жонка, — гаварылі, — нарадзіла дзіця як трэба. Даношанае і здаровенькае.

Алік крычаў на ўсю сілу:

„Ты, к..., памятай, я не хачу цябе больш ведаць... Будзе развод і я зраблю ўсё, каб адпісаць тваё байстручаня! Яно не маё!“

Дзіця, фактычна, было не яго. Лена кахалася з хлопцам, які прыязджаў з горада. Той, як толькі даведаўся, што яна зацяжарыла, больш не паявіўся. Калі пазнаёмілася з Алікам, адразу пайшла ў ложак і думала, што ён даруе ёй памылку...

З бальніцы Лену забрала сястра са шваграм. Алік развёўся з жонкай і даказаў, што дзіця не яго. Лена аддала малую ў яслі і пайшла працаваць у швальню. Сястра і швагер памагаюць ёй пільнаваць Дароту. Бацькі таксама даюць грошы і харчы.

Алік не вытрымаў насмешак. Пачаў піць. Відаць, водка пайшла яму ў смак, бо штодзённа ходзіць п'яны.

**Аўрора**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка, мая маладосць (ранняя) была цікавая, не скажу, але закончылася не надта весела. Мой першы хлопец, з якім я пазнаёмілася будучы ў першым класе ліцэя, быў тады студэнтам. Хадзілі мы з ім больш трох гадоў і, калі я закончыла ліцэй, мы пажаніліся. Я стала на працу, а мой муж вучыўся далей. Было гэта страшэннае каханне. Я за ім свету не бачыла, а мае бацькі дапамагалі нам чым маглі, бо ягоныя бацькі лічылі, што павінен быў ажаніцца толькі тады, як здабудзе адукацыю, і з дзяўчынай, якая ў руках таксама будзе мець добры фах. Мне з гэтай прычыны было вельмі сумна, але я гатова была дараваць ім усё за тыя хвіліны шчасця, якія даваў мне іх сын.

Шчасце, аднак, не было вечнае. Праз год які нашага супольнага жыцця я заўважыла, што мой муж пачаў усё менш цікавіцца домам, позна вяртаўся. Меў, праўда, заўсёды нейкае вытлумачэнне, але я бачыла па адносінах да мяне, што нешта тут не ў парадку. I неўзабаве справа высветлілася. То адна сяброўка, то другая пачалі даносіць мне, што то тут, то там бачылі яго з адной і той жа дзяўчынай. У маёй душы ўсё калаціласа, але я яшчэ не хацела верыць у гэта. Пакуль не ўбачыла сама... Ішлі, трымаючыся за ручкі, як галубкі... Не думаў ён, што я яго пільную, але я хацела на ўласныя вочы пераканацца і, сказаўшы, што буду чакаць яго дома, дапільнавала іх разам, калі яны выйшлі з заняткаў.

Справа скончылася балючым для мяне разводам. Але я ўжо не бачыла ніякага сэнсу супольнага жыцця. Я выехала ў Францыю, дзе ў мяне жыла цётка. Яна і дапамагла мне знайсці працу, а неўзабаве я пазнаёмілася з сябрам цётчынага сына, з якім мы падружыліся. Ён пачаў мяне запрашаць на розныя імпрэзы пасля працы, разам мы выязджалі за горад, і, такім чынам, неўзабаве ён стаў маім хлопцам. Я перабралася ад цёткі да яго. Паўгода мы былі разам. Я нават прыязджала з ім дахаты, да маіх бацькоў, але ўжо тады сказала маме, што замуж я за яго не выйду. Не магла я сказаць маме, якой мой хлопец на выгляд вельмі спадабаўся, што ў сексуальных справах ён зусім слабенькі. Нават тады, калі я з ім, я думаю ўвесь час пра свайго былога мужа. Толькі ён мне ў галаве. Успамінаю яго, але цяпер ужо цвёрда ведаю, што раблю гэта не таму, што быў маім першым хлопцам, якому я аддалася, а таму, што быў ён у гэтых справах сапраўды вельмі добры. Мой сённяшні хлопец, не ведаю чаму, але зусім не ўмее кахаць жанчыну. Прабач, Сэрцайка, але, калі ён прагне нейкага зблі жэння, дык кладзецца, раскладае рукі і ногі і... кахай яго! А я ведаю, што такое мужчынскае каханне. Няхай сабе мае адносіны з першым хлопцам і закончыліся нешчасліва, але лічу, што нешта спазнала я ў жыцці і за гэта яму ўдзячна.

Сэрцайка, хачу знайсці сабе кватэру і адыйсці ад майго цяперашняга хлопца. А што ты на гэта?

**Анна**

Анна! Я на гэта, як на лета. Калі знойдзеш толькі кватэру — знойдзецца і наступны хлопец. Можа ён будзе больш напамінаць табе тваё першае, нешчаслівае каханне. Нешчаслівае, яно застаецца ў памяці найтрывалей...

**Сэрцайка**

## Як мы выяўляліся

(Працяг са стар. 7)

ку і Мікалай Матэйчук: вершам славіў з'езд і светлы шлях, што перад намі. Прарокам не стаў, але, як бы ні было, адкрыў дарогу на літаратурны палетак. Замыкаў нумар палкі паклоннік Сонькі Залатаручкі Дзядзька Лявон (Станіслаў Вагурка). Як і пасавала адэсіту, адчуўшы ў нас сваяцкую цягу да гумару, ціснуў на ўсе педалі і неўзабаве ўзначаліў касяк самых папулярных аўтараў „Нівы“.

Усяго нам не хапала. Не толькі вопыту. Найгорш мелася справа з жыллём. Яго нам абяцалі на няясную будучыню. Але мы на вуліцы не начавалі. Я, напрыклад, выдвараны з партыйнай гасцініцы, прыдбаў начное прыстанішча ў каморцы на гары крыла былога місійнага касцёла. Мая канура вызначалася магільнымі габарытамі, нават не прабаваў упіхаць у яе ложак, спаў на падлозе. Калі лёг, рукой даставаў да столі, якая наўскос палавініла камор ку. Сніліся сны трывожныя: душы павернутых скраблі па сцяне. Скраблі дрэвы, што раслі за сцяною, але ў жудаснай пустэльні і загартаваны атэіст меў права на містычныя прывіды.

Добра, што дзень усяляў светлыя думкі. Цешыла прыхільнасць чытачоў, цёпла сустрэў „Ніву“ польскі друк. На палітычнай карце панавала ўстойлівая адліга, а ўсходні вецер прынёсіў гарачы подых XX з'езда. У „Звяздзе“, а затым і ў „Советской Белоруссии“ з'явіліся артыкулы, у якіх цэнтральныя беларускія газеты высока ацанілі напрамкі нашай дзейнасці. Прыслалі прывітлівыя лісты беларускія пісьменнікі, а малады паэт Ніл Гілевіч пераклікаўся вершам „На прадвесні“.

Дзень бадзёрыў і натхняў.

**Георгій Валкавыцкі**

(З „Дзённіка рэдактара“. Машынапіс).

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне, прысніўся мне страшэнны сон. Быццам бы памёр мой бацька і ляжыць ён, мёртвы ўжо, на стале, а ў яго разрэзаны жывот. I я бачу, як усё там закрываўленае ў сярэдзіне — і кішкі, і ўсе іншыя ўнутранасці. Я ведаю, што чакае мяне нешта кепскае. Падкажы, Астроне!

**Васіль**

Сніцца мне, што ў маім вялікім пакоі сядзіць мужава братавая, сядзіць яна на падлозе, на пасцелі. І яе сын таксама, але ў пярэдняй і там таксама пасцель.

**Марыя**

Васіль! Твой сон няўхільна прадвяшчае нейкі клопат. Больш таго, можа быць нават вельмі небяспечна.

А твой, Марыя, сон гаворыць пра нейкую хваробу. Можа хвароба будзе датычыцца твайго мужа, бо снілася табе яго братавая і яго пляменнік. Пасцель заўсёды сніцца на хваробу!

**Астрон**

**Пошта Астрона.** Агнешка! Твае сны ндобрыя. Абазначаюць, на жаль, вялікую небяспеку для тваёй сям'і.

**А.**

## КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

# СЕЛЯДЦЫ...

### ... I ЯЕЧНЫ СОУС

**На 30 дэкаў салоных селядцоў узяць два крутыя жаўткі і адно цэлае крутое яйка, 1 лыжку муштарды, 10 дэкаў яблыкаў, 10 дэкаў цыбулі, 6 лыжак алею, лімонны сок, 4 лыжкі дробна пасечанай зялёнай цыбулькі.**

**Вымачыць і ачысціць са скуркі і костачак селядцы. Цэлае філе нарэзаць упоперак, на званкі, і палажыць яго на талерку. Заліць соусам, падрыхтаваным наступным чынам. Жаўткі расцерці, перамяшаць іх з муштардай, а тады спалучыць з алеем. Дадаць сцертыя на тарцы яблык і цыбулю, а пасля лімоннага соку і 2-3 лыжкі вады. Бялок пасячы. Залітыя соусам селядцы пасыпаць пасечаным бялком і зялёнай цыбулькай.**

### ... I ПЮРЭ З СЭЛЕРАЎ

**На паўкілаграма свежых селядцоў трэба ўзяць 40 дэкаў сэлераў, 5 дэкаў маянезу, 2 лыжкі густой смятаны, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, соль, перац.**

**Памыць і ачысціць сэлеры, нарэзаць іх, палажыць у невялікую колькасць кіпячай пасоленай вады, зварыць, крыху астудзіць і зміксаваць разам са смятанай. Заправіць па смаку соллю і перцам. Селядцы памыць, ачысціць, зняць з іх скурку, пасыпаць перцам і соллю. Пюрэ з сэлераў палажыць у вогнетрывалы посуд, змазаць зверху тоненька маянезам і на гэта ўсё палажыць селядцы — адзін каля другога. Кожную рыбку змазаць маянезам і ўставіць у гарачую духоўку на паўгадзіны. Падаючы, пасыпаць пасечанай пятрушкай.**

**Падаваць з бульбянымі фрыткамі і з салатай з цыбулі і яблыкаў.**

### ... I МАРЫНАД

**На паўкілаграма салоных селядцоў трэба ўзяць 1 лыжку пасечанай зялёнай пятрушкі, 10 дэкаў кансерваваных агуркоў або марынаваных грыбоў, 10 дэкаў цыбулі, 2 лаўровыя лісткі, 4 лыжкі алею, паўшклянкі лімоннага соку.**

**Салоныя селядцы спаласнуць і намачыць на 4-5 гадзін. Тады выняць з іх сярэдзіну, абрэзаць галовы і хвасты, зняць скурку. Кожную рыбіну загарнуць у пергаментную паперу, змазаную алеем, палажыць у ванначку і ўставіць на 15 мінут у гарачую духоўку. Крыху падпечаныя селядцы выняць з духоўкі, астудзіць. Тады селядцы выняць з паперы, нарэзаць упоперак званочкамі, і палажыць у салатніцу ў форме рыбін. Малачай, выняты з селядца, спаласнуць і працерці праз сіта. Расціраць у місцы, дадаючы алей і лімонны сок. Абабраць цыбулю, дробна яе пасячы. Дадаць пасечаныя грыбкі ці агурок, а таксама лаўровы лісток і сок. Можна дадаць крыху цукру. Селядцы ў салатніцы заліць соусам, пасыпаць пятрушкай, накрыць. Паставіць на 2-3 гадзіны ў халадзільнік. Падаюць гэтую страву халоднай.**

**ГАСПАДЫНЯ**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ЗІМОЙ У ЛЕСЕ

Светлы, аснежаны лес. Магутныя дубы і меднастволыя сосны, абсыпаныя снегам, стаяць нерухома ў мёртвым сне. Не варухнецца ні адна галінка, быццам усё застыла навек... А вось як зрасліся кашлатая елка з бярозкаю, а елка, як рукою, абняла суседку... Аберагае... Маленькія елачкі, знясіленыя пад цяжарам снегу, прыгнуліся.

А ў бары за гарой стук сякер і шоргат піл. Карычнева-сівая сасна пахіснулася. Дрывасекі ўпіраюцца сякерамі ў камель, як толькі можна дастаць над сабой, і яна плыве верхавінай уніз. Цярэбячы голле ўсяму, што трапляецца ёй па дарозе, магутная прыгажуня са стогнам падае на снег. На ране, буйныя, як слёзы, празрыстыя кроплі жывіцы...

Далей, на палянцы, воўчы след. Шэры прайшоў над абрывам і, выбраўшы месца, спусціўся ў яр, гразнучы ў глыбокім, без цвёрдай скарынкі снезе.

Падвечар неба пацямнела. Зноў пачаў цярушыць снег і морак не гусцеў, а калыхаўся дрыготкай стракатай сеткай. Ціха шумелі верхавіны сосен і здавалася, выразна чуваць мяккі шолах снегападу.

Янка Целушэцкі



Ціха шумелі верхавіны сосен і здавалася, выразна чуваць мяккі шолах снегападу... Фота Я. Целушэцкага

Уладзімір Мацвеенка

# ЗАГАДКІ

## ЗАЙКІ-ЗАГАДАЙКІ

70

Маю я нязвычны голас,
Гусеніцы замест колаў,
Яшчэ маю да таго ж
І магутны востры нож,
Ім зямлю раўняю лоўка,
Дзе прайдуся — там пляцоўка.

71

У кожным доме ёсць, на дачы —
На стале ці на сцяне,
Яно кожнага з нас бачыць,
А сябе ніколі, не!

72

Не каса, але кашу.
І не звер, але ўкушу.
У метале альбо ў косці —
Амаложваю кагосьці.

73

Не скажу, што і не любяць,
Ды скубуць мяне усе,
Без віны штодзённа чубяць,
Я танчэю пакрысе.
Я ніколі не злуюся.
Бо цудоўны маю дар.
Адгадайце, як завуся?
А завуся ....

74

Маю тонкі, востры нос,
Каляровы доўгі хвост.
Спрытна я ў руках мільгаю,
Носікам свой шлях шукаю.

Адказ на загадкі знойдзеш у наступным нумары.

Адказ на загадкі з папярэдняга нумара: 65. Веласіпед. 66. Градуснік. 67. Абцугі. 68. Запалка. 69. Пыласос.

# ПАЗНАЁМІМСЯ

## БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА Ў ВІЛЬНІ

Пры сярэдняй школе № 37 у Вільні, што пры вуліцы Навагрудскай, д. 7 ужо другі год працуе першая за пасляваенны час беларуская нядзельная школа.

У дзвюх групах вучыцца 50 дзяцей. Заняткі адбываюцца два разы ў тыдзень — пасля іншых прадметаў. Дзеці вывучаюць беларускую мову, гісторыю, літаратуру і народныя рамёствы (вязанне, ткацтва). У школе працуюць настаўніцы: **Альдона Віктараўна Папова** (гісторыя), **Галіна Канстанцінаўна Сівалава** (мова і літаратура) і **Людміла Іванаўна Кардзіс** (народныя рамёствы).

Дзеці з віленскай беларускай школы хочуць пазнаёміцца са сваімі равеснікамі. Падаем іх адрасы.

232006, Литва, г. Вильнюс, ул. Каўно, д. 6, кв. 10, **Иванова Настя** (13 гадоў).

232001, Литва, г. Вильнюс, ул. Пилимо 45-6, **Минковская Эдита** (12 гадоў).

(Працяг на стар. 10)

# ПАСТУХ КУБА

(польская казка)

Адна князёўна аб'явіла, што выйдзе замуж толькі за таго, хто выдумае такую цяжкую загадку, якую яна не зможа адгадаць.

Вестка аб гэтым дайшла да маленькай вёскі, дзе жыў малады пастух Куба.

Задумаў ён паспрабаваць шчасця і падаўся ў палац да князёўны.

— Ну, што ты скажаш цікавага? — запытала князёўна.

Тады Куба адказаў:

— Адгадай, што гэта такое:
З галавы агонь здабыў,
З весялосці нагрэўся;
Стрэліў у тое, што бачыў,
Забіў тое, што не бачыў,
Спёк, пасаліў і з'еў;
За сабою праў, перад сабою клаў
І прыйшоў да караля на абед.

Князёўна паклікала ўсіх мудрацоў, але ніхто з іх не мог адгадаць загадкі.

Хочаш не хочаш, прыйшлося князёўне ісці замуж за Кубу-пастуха.

На вяселлі госці пачалі прасіць маладога, каб ён растлумачыў, што азначае яго загадка.

— Калі збіраўся ісці ў палац, — пачаў расказваць Куба, — узяў я з сабою скрыпку. Але заблудзіўся ў дарозе, а тут ноч надышла, і давялося начаваць у лесе. Было холадна і мокра. Хацеў я раскласці вогнішча, ды нічога сухога не было пад рукою. Падумаў я, падумаў, вырваў падкладку ў сваёй старой шапцы і распаліў агонь. Не было сухіх дроў, дык зламаў скрыпку і палажыў на агонь. Абагрэўся крыху, раптам чую нейкі шолах. Гляджу, аж гэта бяжыць казуля. Стрэліў, але яна ўцякла. Потым прыглядзеўся — штосьці ляжыць недалёка. Падыходжу бліжэй і бачу забітую маленькую казулю, якой не заўважыў спачатку, бо яна была за маткай. Спёк яе сабе, пасаліў і з'еў. Назаўтра іду далей і пытаю, ці далёка да палаца князя. Кажуць мне: „Вакол міля, а напрасцяк, праз багну, дзве". Сустрэў я дрывасека, купіў у яго дзве дошкі і пайшоў да палаца простай дарогай, якая вяла праз багну. На адной дошцы ішоў, а другую клаў перад сабою і так вось шчасліва перабраўся цераз балота і апынуўся тут, у палацы. А што было далей, вы ўжо самі ведаеце.

Станіслаў Шушкевіч

# СНЕЖНЫ ДЗЕД

Скачуць дзеці. Шум і смех.
У камы качаюць снег,
І з вясёлаю усмешкай
Б'юць адзін другога снежкай.
Толькі снегу быў камяк,
А ўжо вырас дзед-дзівак:
Галава, нібы падушка,
Шапка з'ехала на вушка,
Губы — порхаўка,
Нос, як моркаўка.
Пояс — рэмень наўскасяк,
З боку венічак-галяк.
Крочаць дзеці на абед,
І адзін застаўся дзед.
Верабейчык на плячы.
Чыркнуў дзеду: чык-чык-чык!
Пасля пырхнуў — і няма.
Сыпле белы пух зіма.
Паглядзеў яму услед,
Зажурыўся снежны дзед.






(Працяг са стар. 9)

232006, Литва, г. Вильнюс, ул. Агуону, д. 5, кв. 11. **Ерман Жанна** (13 гадоў).

232006, Литва, г. Вильнюс, ул. Шопене, д. 12/26. **Сятковская Анджела** (13 гадоў).

232006, Литва, г. Вильнюс, ул. Св. Степана, д. 23, кв. 21. **Тадеуш Светлана.** (12 гадоў).

232006, Литва, г. Вильнюс, ул. Кауно, д. 4, кв. 5. **Дулько Кристина** (13 гадоў).

Литва, Вильнюс, ул. Жемайтиос, д. 8, кв. 228, **Валадкович Янина** (13 гадоў).

232006, Литва, ул. Шальтиню, д. 12, кв. 1. **Наркович Вера** (12 гадоў).

232001, Литва, Вильнюс, ул. Пилимо, д. 27, кв. 19. **Суботкевич Света** (13 гадоў).

Литва, Вильнюс, ул. Жемайтисс, д. 8/11, кв. 123, **Дингилевич Наталия.**

232024, Литва, Вильнюс, ул. Доминенкону, д. 14, кв. 2. **Севастьянова Марина** (12 гадоў).

Литва, г. Вильнюс, ул. Альгирдо, д. 41а, кв. 55, **Саладуха Оксана** (12 гадоў).

Литва, п/о Рудамина, ул. Томиклос, д. 38, кв. 55. **Энарович Аня** (12 гадоў).

232009, Литва, г. Вильнюс, ул. Вивульского 4-22, **Тириг Оксана** (13 гадоў).

232024, Литва, г. Вильнюс, ул. Шв. Миколайаус, д. 8, кв. 13. **Мозурайте Илона** (12 гадоў).

Литва, Вильнюс, ул. Яблонськиса, д. 8, кв. 20. **Войтюкевич Божена** (11 гадоў).

Литва, Вильнюс, ул. Витянюсо, д. 44, кв. 2, **Магер Наталия** (11 гадоў).




☆

Вася пабіў калена.
— Ты нават не заплакаў, малайчына! — уцешылася мама.
— Я не ведаў, што ты дома!

☆

Мама кліча Колю:
— Зараз жа кідай усё і хадзі абедаць!
Чуваць звон бітага шкла і хлюпат вады.
— Што там такое!?
— Я пераносіў акварыум...

☆

— Тата, а дзе знаходзяцца Бермуды?
— Не ведаю, сынок. Мама, напэўна, ведае — нядаўна наводзіла парадак у хаце!




Станіслаў Шушкевіч

**МЫ НІКУДЫ НЕ ДЗЕЛІСЯ**

**— Паглядаю я наўкола,**
**Зайчаняткі мае,**
**На палянцы — пуста, гола.**
**Дзе вы? Нас не стае...**
**— Не бядуй, мамусенька!**
**Мы ад цябе блізюсенька,**
**Потырч з гурбы куляемся,**
**Тут мы! Тут мы! Сям'я ўся!**
**Мы нікуды не дзеліся —**
**Мы ў белае адзеліся...**

☆

Ніна Галіноўская

**НА ЦЫМБАЛАХ ГУСІ ГРАЮЦЬ**

**На цымбалах гусі граюць.**
**Певень з курачкай спяваюць:**
**— Ку-ка-рэ-ку, ко-ко-ко,**
**Ой, разліў кот малако.**
**Ку-ка-рэ-ку, куд-кудах,**
**Коцік шэранькі ў слязах.**
**Ко-ко-ко, не румзай, Цішка,**
**Бо смяяцца будзе мышка.**






*Малюнак да казкі „Храбрае куранятка". Аня Сімончук, вуч. VI класа школы ў Трасцянцы.*




**САЛАВЕЙ**

Салавей — птушка сям'і драздовых. Жыве ў Еўропе (за выключэннем паўночных раёнаў), у цэнтральных і паўднёвых раёнах Заходняй Сібіры. На Беларусі звычайны пералётны від.

Салавей селіцца ў хмызняках на берагах вадаёмаў, на поймавых лугах, ускрайках лісцевых увільготненых лясоў, у невялікіх гаях, садах, парках з густым подрастам і падлескам з лісцевых парод, звычайна ў вільготных месцах або паблізу



ад вады. Асцярожны, трымаецца скрытна па адным або парамі. Корміцца жукамі (пераважна даўганосікамі, лістаедамі, шчаўкунамі, жужалямі), клапамі, вусенямі, многаножкамі, мухамі, павукамі і іншымі насякомымі, восенню зрэдку ягадамі і насеннем.

Даўжыня цела салаўя — 16-17,5 см, маса — 25-30 г. Апярэнне спіны аліўкава-бурае, брушка белаватае, бакі бурава-та-шэрыя. На валляку стракатая, шаравата-вохрыстая пляма. Хвост рыжаваты. Прылятае ў канцы красавіка, пачатку мая і праз 3-5 дзён пачынае спяваць. Спявае амаль усю ноч, у разгар шлюбнага перыяду (да паловы чэрвеня) і днём. Песня вельмі характэрная, багатая свістамі, шчоўканнем і пералівамі, пяшчотныя гукі зменьваюцца гучнымі, вясёлыя — журботнымі... У лепшых „спевакоў" песня налічвае да 12 кален. У час спеваў салавей губляе асцярожнасць і падпускае вельмі блізка. Салавей здольны да імітацыі галасоў жывёл.

Гняздо салавей будуе звычайна на зямлі, паміж каранямі кустоў, радзей сярод спляценняў галін каля зямлі, з сухога лісця, тонкіх галінак, сцяблоў травы, лісця асакі, добра замаскіраванае. Высцілка з тонкіх карэньчыкаў, сцяблоў, злакаў, размачаленага лісця, зрэдку трапляецца конскі волас. Складае ў маі — пачатку чэрвеня па чатыры-шэсць аліўкавых, карычнева-аліўкавых або цёмна-шакаладных яек, наседжвае іх 13-14 дзён. Птушаняты пакідаюць гняздо менш чым праз два тыдні. Да верасня трымаюцца вывадкамі, вандруюць. Салавей адлятае ў верасні, зімуе ў трапічнай Афрыцы.




**НА ЎРОКУ**

Настаўнік заданне
На ўроку тлумачыць.
— Мо будуць пытанні
У вас да задачы?
Пытанне Міколка
Задаў праз хвілінку:
— Мінут яшчэ колькі
Нам да перапынку?

**МУХА Ў ГАРБАЦЕ**

— Даражэнькі тата,
Ты мяне паслухай:
У шклянцы з гарбатай
Трапечацца муха.

— Не нервуйся зранку,
Мілы мой саколік.
Муха цэлай шклянкі
Не вып'е ніколі.

**НЕГР З МАРКАМ У ЗААПАРКУ**

Мама пытае сына Марка;
Ён толькі з горада вярнуўся:
— Што бачыў ты у заапарку?
— Я негра бачыў там, мамуся.

— Што там рабіў негр гэты,
дзетка?
З цікаўнасцю пытае мама.
— Ад клеткі ён хадзіў
да клеткі,
Звярочкаў аглядаў ...аксама.

**ЧАМУ ДВОЙКА Ў СШЫТКУ?**

Мама сшыткі праглядала,
Вярнуўшыся з работы.
— Чаму двойка? — запытала,
— Дрэнна вучышся, лянота!
— Яшчэ добра, — кажа Лёня,
— Маю двойку, дзякуй Богу.
Іншым вучням дык сягоння
Не паставілі нічога.







Добра прыглядзіся — як знайсці дарогу ад адной з лічбаў да вылету. Можа, дапаможаш сабе, праводзячы лінію алоўкам?


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

# ПАРОДЫ

### ГАЛАЛЁДЗІЦА

*Пад нагамі ў нас*
*Лёд раскоўзаны...*
*Сталі слухаць не сэрца,*
*А розум мы.*
*Пад руку браць другіх*
*Нам даводзіцца...*
*Галалёд, галалёд,*
*Галалёдзіца.*

**Галіна Каржанеўская**

Пад нагамі ў нас
Лёд раскоўзаны,
Ачмуціў тут адзін
Мяне розумам.

Быў жа лёд-галалёд —
Паслізнуліся,
Адно з ротам рот
Сутыкнуліся.

Ён давай шаптаць:
„О, мілейшая!
Напішу для Вас
Заўтра вершы я.“

Ах ты, голуб мой,
Мой разумніца!
У мяне ж самой
Штосьці рыфмуецца.

Ах ты, рыфма мая,
Мая модніца!
Як успомню пра лёд —
Млосна робіцца.

**Янусь Малец**

# НІЎКА

— Добра, галубачка... Добра, галубачка...

### МАТРЫМАНІЯЛЬНАЕ

Маладая дзяўчына прызнаецца сяброўцы:
— Я дала аб'яву ў газету, што шукаю маладога прыстойнага брунета ў матрыманіяльных мэтах.
— І прыйшлі адказы?
— Некалькі дзесяткаў. Нават з гэтай прычыны дома атрымаўся скандал.
— Чаму?
— Адзін з лістоў напісаў мой бацька.

### ПЕРАШКОДА

Сустрэў Кавальскі прыяцеля і пытае:
— Ты ўжо ажаніўся з той прыгожай удавой, з якой бачыў я цябе ў рэстаране?
— Не. Выявілася нечаканая перашкода.
— Яна цябе не кахае?
— Кахае да непрытомнасці. Але нечакана аказалася, што яе муж яшчэ не паспеў памерці.

### ВЕРШ

Жанчына чытае анталогію любоўнай лірыкі. Потым звяртаецца да мужа:
— Ці ведаеш, любы, нейкі Рыльке перапісаў верш, які ты мне прысвяціў яшчэ дваццаць гадоў назад!

### КАНТРАКТ

Размаўляюць дзве сяброўкі:
— Як гэта табе пашчасціла схіліць Пэтэра да шлюбу?
— Я паабяцала яму хуткі развод...

## ПА-ЧАЛАВЕЧЫ

**Прасторныя пралёты зборачнага цэха. Паўзуць па канвееры аўтамабілі. Дырэктар са світай робіць ранішні абход.**

**— Так што, Іван Іваныч, — дакладвае начальнік цэха, — план мы амаль выканаем. Ну, можа, паўпрацэнта недацягнем.**

**— А гэта чаму? — сурова запытаў дырэктар. — Цісніце!**

**— Ды што паціснеш! — наракае начальнік цэха. — Адных гаек тысячамі круцім, кожную па пятнаццаць абаротаў!**

**А калі б па дванаццаць абаротаў выканалі б.**

**— Па дванаццаць? — задумваецца начальнік. — Выканалі б.**

**— Я вам нічога не падказваю, — гаворыць дырэктар. — Думайце самі.**

**— Але ж машына развaліцца... — заўважае начальнік.**

**— Не паспее, — усміхаецца дырэктар. — А што аўталюбіцелі з ім робяць зараз пасля пакупкі?**

**— Гайкі прыкручваюць! — хорам адказвае світа.**

**— І заўважце, робяць гэта з радасцю! — падсумоўвае дырэктар. — Так што ўсё па-чалавечы.**

**Абход набліжаецца да малярнага ўчастка.**

**— Як план? — пытае Іван Іваныч у майстра.**

**— Складана, але паскараем, — рапартуе той.**

**— Якім спосабам?**

**— Кінулі маляваць невідочныя дэталі. Замест гэтага дакладаем банку з фарбай.**

**— Малайцы, — адабрае дырэктар. — Але гэтага ўжо мала.**

**— Можа, і відочныя не фарбаваць? — гарачыцца майстар. — Яшчэ дзве банкі з фарбай даложым. І так іх расхопліваюць!**

**— Малайцы! — зноў адобрыў дырэктар. — А да фарбы яшчэ пэндзлік дабаўце. Каб усё па-харошаму было, па-чалавечы.**

**— Ну, цяпер — на станцыю! — камандуе дырэктар. — Пакуль сваімі вачыма метал не пабачу — не супакоюся.**

**На станцыі дырэктара сустракае шчаслівы дастаўшчык.**

**— Іван Іваныч! — радасна крычыць ён. — Метал прыехаў!**

**— Дзе? — круціць галавою дырэктар.**

**— А вось жа! — паказвае той на вагоны.**

**— Але ж гэта руда!**

**— Так, — згаджаецца дастаўшчык. — Руда. Затое жалезная. А з металам, самі ведаеце...**

**— За глотку схапілі металургі! — з гневам ускрыкнуў дырэктар. — Што мы з ёю рабіць будзем?**

**— Не перажывайце, — пацяшае яго дастаўшчык. — Усё зроблена па-чалавечы. Наступным саставам яны абяцалі домну паставіць.**

**— Гэта мяняе справу, — адразу супакойваецца дырэктар і моршчыць лоб, абдумваючы хітры манеўр людзьмі і тэхнікай.**

**ЮСІФ ГОЛЬМАН**

„Рагач“.

### З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ...

**... Вераб'я** — Салавей — гэта птушка, якая не ўмее чырыкаць.

**... Слана** — Хто з нас не марыць аб тым, каб стаць мамантам! Хаця б нават пасмяротна.

**... Быка** — Адным прырода дала для самаабароны рогі, другім прэрагатывы.

**... Кураняці** — Аднак лепш быць неаперанымі аўтарам, чым абскубаным.

### У РЭСТАРАНЕ

— Гэй, афіцыянт, прынясіце мне адбіўную.

— З задавальненнем.

— Можна і без задавальнення, але абавязкова з бульбай, і болей.


# Ніва

Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар).

„Niwa"
ul. Suraska 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1991 r. upływa 20 lutego 1991 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 10.400 zł + 6.500 zł za doręczenie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.
Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1800 zł.
Cena prenumeraty miesięcznej: — marzec — 9.000 zł.
Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 23.400 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

III. Кошт падпіскі ў БССР:
— месячная — 2 руб.
— квартальная — 6 руб.
— паўгадавая — 12 руб.
— гадавая — 24 руб.

Zam. 201/91


© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016